# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 24 (642) Год XIII 16 ЧЭРВЕНЯ 1968 г. ЦАНА 60 гр.


## Новыя вершы

* * *

Людзі — зоркі:
запаляцца ў свеце,
Замігацяць навакол, зазіхцяць
І, колькі трэба, Зямлі пасвецячы,
Скоцяцца зноў
з небасхілу жыцця.

Глянеш — усе, як адна, над сусветам,
А падыдзі да іх,
з блізку зірні —
Кожная — сонца альбо планета,
Поўная верб,
азяродаў,
зарніц.

(Са зборніка «Чарназём»)

КАСТУСЬ ЦВІРКА



ГРЭЧКА. Фота Ул. Паўлючук

## ШКОЛЬНЫ КОНКУРС

У папярэднім нумары «Ніва» інфармавала аб беларускім міжшкольным конкурсе.

Сёння падаем правілы конкурсу.

ПРАВІЛЫ

VII Беларускі міжшкольны конкурс тэматычна навязвае да 25 гадавіны стварэння Войска Польскага.

1. Мэтай конкурсу з'яўляецца:

а) зацікавіць вучняў гісторыяй Войска Польскага, якое прайшло слаўны баявы шлях ад Леніна да Берліна і зараз сцеражэ наш спакой;

б) развіваць пачуцці любві і пашаны да нашага войска і людзей, якія змагаліся за нашу свабоду і незалежнасць.

2. Конкурс будзе працягвацца ад 1 чэрвеня да 1 лістапада 1968 г.

3. Вучні ліцэяў і V—VIII класаў падставовых школ з беларускай мовай у групах (класах) або індывідуальна:

а) будуць увесь час апекавацца магіламі польскіх і савецкіх салдат, партызан, загінуўшых у баях з гітлераўскім акупантам, і месцамі смерці ахвяр фашызму;

б) правядуць сустрэчы з салдатамі — удзельнікамі вайны і былымі партызанамі;

в) правядуць сустрэчы з салдатамі, афіцэрамі ці мясцовымі людзьмі, якія служылі або зараз служаць у Войску Польскім;

г) напішуць на беларускай мове справаздачу з гэтых прац і сустрэч.

Пажадана, каб у справаздачы была апісана ўрачыстасць прысвечаная 25 гадавіне стварэння Войска Польскага, якая адбылася ў мясцовай школе, і каб былі змешчаны ў ёй успаміны жыхараў аб баях у ваколіцах і акалічнасцях смерці загінуўшых, а таксама ўспаміны мясцовых ветэранаў.

4. Школы прышлюць справаздачы вучняў да 10 лістапада 1968 г. у Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку.

(ZG, BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11).

Павінна быць далучана інфармацыя школы аб тым, якія групы (класы) або паасобныя вучні былі найбольш актыўнымі.

5. Вучням адзначаным у гэтым конкурсе камісія прызнае груповыя і індывідуальныя каштоўныя рэчавыя ўзнагароды.

Кураторыя Беластоцкай школьнай акругі ў Беластоку

Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку

## БРАТЫ-СУСЕДЗІ

# ГЭТА НЕ ТОЛЬКІ КУРТУАЗІЯ

Суседскія кантакты між Беластоцкім ваяводствам, а суседняй Гродзенскай вобласцю далей развіваюцца. У мінулым годзе характар іх быў больш святочны, звязаны з 50-цігоддзем Вялікага Кастрычніка, а ў гэтым годзе характар візітаў больш рабочы, хаця не менш сардэчны. У маі пабывала на Гродзеншчыне дэлегацыя Прадпрыемства драўлянай прамысловасці ў Беластоку з дырэктарам мграм інж. Рышардам Каласоўскім.

Я правёў размову з прадстаўнікамі дэлегацыі, якая гасціла ў Гродна, і хачу хаця ў скарачэнні перадаць яе змест чытачу.

Наша дэлегацыя наведала Гродна, Масты і дзякуючы выключнай сардэчнасці гаспадароў пабывала ў сталіцы Беларусі — Мінску.

Дырэктар Р. Каласоўскі. — Першае — гэта вельмі ветлівае, задушэўнае прывітанне нашай дэлегацыі і гэта ўсюды: у партыйных улад, на заводах, прыватных размовах і сустрэчах. Гэта не толькі куртуазія, гэта сапраўдная камуністычная шчырасць. Я ведаў Гродзеншчыну 23 гады таму, ведаў яе людзей, і тое, што я пабачыў зараз, мне нічым не напамінае мінулага. Проста пасля 23 год вырас новы тып чалавека, чалавека, які дапамагае адзін аднаму, шчырага, адкрытага, які за сябра аддаў бы ўсё — чалавека камуніста. У маім ўяўленні гэта штосьці найвялікшае і цяжкае, каб пераказаць словамі... Безумоўна, нельга памінуць шырачэзнага будаўніцтва. Гродна — гэта прамысловы горад. Сябры нам расказвалі, што Гродна мае 120 тыс. жыхараў, плануецца на 200 тысяч, але будаваныя тылы сведчаць аб большых памерах горада.

Наш прафесіянальны абмен? Думаю,

(Працяг на стар. 4)

# НА БЕЛАРУСКАЙ ХВАЛІ

У кожны панядзелак, у 7 гадзін і 15 мінут раніцы, наставіўшы свой радыёпрыёмнік «на Беласток», вы зможаце пачуць: «Добры дзень, дарагія сябры! Распачынаем радыёперадачу на беларускай мове».

Калі пачуеце жаночы голас, значыць вітае вас дыктар Ада Чэчуга, калі адазвецца мужчына — будзе гэта аўтар беларускіх радыёперадач Лявонь Майсеюк.

Беласток адазваўся ў эфіры на беларускай мове дзесяць гадоў таму назад — у чэрвені 1958 года. Тады ўжо звыш 2-х год існавала «Ніва» і пачынала сваё творчае жыццё Беларускае літаратурнае аб'яднанне. Нічога тады дзіўнага, што адчуваўся недахоп жывога беларускага насельніцтва Беласточчыны. Перад мікрафонам Беластоцкага радыё выступалі хіба ўсе больш вядомыя беларускія аматарскія мастацкія калектывы з вёсак і мястэчак Беласточчыны, знайшлося ў ёй месца для народнай творчасці, запісваліся народныя песні і легенды, адлюстроўвала яна дзейнасць БГКТ, Беларускага літаратурна-мастацкага аб'яднання Белавежа і рэдакцыі вашага тыднёвіка... Ды ўсяго не пералічыш. Існавала і ў далейшым існуе ў нас у радыё няпісаная ўмова, што там, дзе штосьці дзеецца, што мае нейкія адносіны да праяў грамадска-культурнага жыцця беларусаў у Польшчы — там пасылаем рэдактара радыёперадач на беларускай мове.

рускага слова. Аб патрэбе яго гаварылася ў той час на розных сходах, на пленумах Галоўнага праўлення БГКТ, а нават на з'ездзе нашага Таварыства.

Да прапаноў беларускіх грамадскіх дзеячаў прыхільна аднесліся ўлады, і так у тыднёвай праграме радыёперадач Беластоцкай радыёвяшчальнай станцыі паявілася новая праграмная адзінка — 15-цімінутная радыёперадача на беларускай мове. Першым яе аўтарам быў Мацей Канапацкі. Пасля — у 1961 годзе — падмяніў яго Лявонь Майсеюк.

Рэдакцыя радыёперадачы на беларускай мове за час свайго існавання паслала ў эфір звыш 520 радыёперадач. Калі б хтосьці задумаў выслухаць іх «за адзіны раз», спатрэбілася б для яго амаль 1740 гадзін часу.

Намеснік галоўнага рэдактара Беластоцкай радыёвяшчальнай станцыі і адначасова загадчык рэдакцыі «Апошніх паведамленняў» Мікалай Таратыка гаворыць:

— Радыёперадачы на беларускай мове маюць слоўна-музычны характар. З'яўляюцца яны састаўной часткай радыёперадач рэдакцыі «Апошніх паведамленняў». І таму яе аўтар — у даным выпадку сябра Лявонь Майсеюк — карыстаецца ў нашым радыё такімі самымі правамоцтвамі, як і аўтары іншых радыёперадач на польскай мове. Адменнасць гэтай перадачы абумоўлена яе характарам, яе праблематыкай і тэрыторыяй пражывання яе слухачоў. Перш за ўсё радыёперадача на беларускай мове стараецца рэестраваць усе праявы грамадска-культурнага жыцця бела-

У рамках супрацоўніцтва Беластоцкага ваяводства з суседзямі з-за дзяржаўнай мяжы мы наладзілі цесны кантакт з Гродзенскім абласным і Мінскім рэспубліканскім радыё. Рэдакцыя нашай радыёперадачы на беларускай мове ў гэтым супрацоўніцтве займае, бадай што, асноўнае месца. У гэтым годзе, як вам вядома, Савецкая Беларусь адзначае сваё 50-цігоддзе. У сувязі з гэтым

(Працяг на стар.3)



Ада Чэчуга і Лявонь Майсеюк перад мікрафонамі беластоцкага радыё.

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ГНЕЎ І АБУРЭННЕ

У сераду 5 чэрвеня г. г. у Лос-Анджэлесе ў гасцініцы «Амбасадар» быў зроблены замах на сенатара Роберта Кенедзі, брата прэзідэнта Джона Кенедзі, забітага 22 лістапада 1963 года ў Даласе (штат Тэхас).

Замах на Р. Кенедзі адбыўся ў той момант, калі сенатар закончыў сваё выступленне на прэс-канферэнцыі ў штаб-кватэры, якая размясцілася ў гасцініцы, пасля аб'яўлення вынікаў пярвічных выбараў у штаце Каліфорнія. На гэтых выбарах ён атрымаў перамогу сярод прэтэндэнтаў ад дэмакратычнай партыі ў кандыдаты на пасаду прэзідэнта ЗША.

Сенатар Роберт Кенедзі вёў актыўную кампанію за вылучэнне сваёй кандыдатуры ў прэзідэнты ад дэмакратычнай партыі. Ён атрымаў унушальную перамогу на пярвічных выбарах у Нябрасцы і Індыяне, уступіў перамогу ў Арэгоне і зноў перамог у Каліфорніі. Пасля гэтай перамогі ён стаў адным з галоўных прэтэндэнтаў у кандыдаты на пасаду прэзідэнта ЗША ад дэмакратычнай партыі. Р. Кенедзі — актыўны крытык палітыкі ўрада ў В'етнаме, які ў перадвыбарчых прамовах патрабаваў спынення в'етнамскай вайны.

Замах на Р. Кенедзі ўстрывожыў ўсю Амерыку, выклікаў гнеў і абурэнне ва ўсім свеце. Сенатар — дэмакрат Ральф Ярбара заявіў: «Жах усяго гэтага заключаецца ў тым, што палітычны замах становіцца звычайнай з'явай у гэтай краіне».

Роберта Кенедзі ўжо няма сярод жывых. Цела яго спачывае побач магілы яго брата прэзідэнта Джона Кенедзі. Забойца Р. Кенедзі — злоўлены. Хто ж ён? У ЗША чуецца галасы, што гэта фанатык, шалёны чалавек. Можна з гэтым было б згадзіцца, калі б не другое больш істотнае пытанне: як гэта дзеецца, што гэтыя «шалёныя» страляюць да акрэсленых людзей — Д. Кенедзі, М. Л. Кінга, Р. Кенедзі? Чаму ніякі шалёны не выстраліў ніколі да «ястрабоў», якія імкнуцца да эскалацыі вайны ў В'етнаме і да прыгнятання неграў? Але на гэтыя пытанні ў «дэмакратычнай» Амерыцы ніхто не хоча адказваць.

### ПАПА ДА ПАТРЫЯРХА

Папа Павел VI накіраваў да маскоўскага патрыярха Аляксея ўтрыманае ў сардэчным тоне пісьмо з нагоды 50-годдзя аднаўлення патрыярхата ў Маскве (годнасць патрыярха знёс Пятро I, падпарадкоўваючы царкву дзяржаве; аднаўленне наступіла незадоўга пасля ўстанаўлення савецкай улады).

Кантакты між Ватыканам і рускай праваслаўнай царквой былі наладжаны ў часе сабора.

### «СКОРПІЁН»

На Атлантычным акіяне загінула амерыканская атамная падводная лодка «Скорпіён». Кошт пабудовы такой лодкі — 40 мільёнаў долараў. На палубе лодкі знаходзілася 99 чалавек Пошукі не далі ніякіх вынікаў.

А. К.

## БССР

### ГУРЫНОВІЧА

Беларускія газеты апублікавалі выступленне міністра замежных спраў БССР А. Гурыновіча ў Першым камітэце XXII адноўленай сесіі Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытанню аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі 31 мая г. г.

«Дэлегацыя Беларускай ССР лічыць, што Дагавор аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі неабходна адобрыць у самыя бліжэйшыя дні на адноўленай XXII сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, і заклікае ўсе дэлегацыі падтрымаць праект рэзалюцыі 31 краіны. Такое рашэнне будзе адпавядаць інтарэсам міру і бяспекі народаў», — заявіў міністр А. Гурыновіч.

### МІЖНАРОДНАЙ

У 52 сесіі Міжнароднай канферэнцыі працы, якая адбылася ў Жэневе, удзельнічала дэлегацыя Беларускай ССР, у склад якой уваходзілі: Шэльдаў А., Гіліцкі Ф., Абуховіч А., Сідаровіч І.

### БЕЛАРУСКАЙ

У Ленінградзе, як працяг Пушкінскага свята паэзіі адбыўся Тыдзень беларускай літаратуры. Прыбыла дэлегацыя беларускіх пісьменнікаў: Максім Танк (кіраўнік дэлегацыі), Іван Мележ, Максім Лужанін, Іван Навуменка, Аляксей Кулакоўскі, Ніл Гілевіч, Андрэй Макаёнак, Уладзімір Юрэвіч, Янка Сіпакоў.

Тыдзень беларускай літаратуры ў Ленінградзе пачаўся ад сустрэчы беларускіх літаратараў з калектывам машынабудаўнікоў праслаўленага Кіраўскага завода.

### СЕМІНАР

Спецыялізацыі і комплекснай механізацыі ў жывёлагадоўлі быў прысвечаны рэспубліканскі семінар, які адбыўся ў Гродне. У семінары ўдзельнічалі — начальнікі раённых упраўленняў сельскай гаспадаркі і кіраўнікі раённых аб'яднанняў «Сельгастэхніка», кіруючыя работнікі абласных і рэспубліканскіх арганізацый і ўстаноў.

У працы семінара прыняў удзел сакратар ЦК КП Беларусі У. Міцкевіч, першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР У. Лабанок.

### ЖУРНАЛІСТАЎ

У Магілёве адбыўся двухдзённы семінар журналістаў абласных газет, скліканы аддзелам прапаганды і агітацыі ЦК КПБ. Абмеркавана пытанні дзейнасці абласнога друку па паляпшэнню асвятлення ідэалагічнай работы партыйных арганізацый.

### МАГІЛЁЎСКІ

Магілёўскі аўтамабілевы завод імя Кірава адправіў у адрас польскіх будаўнікоў шасейных дарог вялікую партыю магутных самаходных скрэпераў.

### ВЕЙНЯРОВІЧ

На Усесаюзным кінафестывалі ў Ленінградзе дыплом за яркае адлюстраванне партызанскага руху ў Беларусі прысуджана поўнаметражнаму дакументальнаму фільму «Генерал Пушча». Рэжысёр-аператар карціны — Іосіф Вейняровіч.

(С. Я.)

## ПОЛЬШЧА

### АКФАН

4 чэрвеня адбылася сесія Агульнапольскага камітэта Фронту адзінства народа (АКФАН), у якой удзельнічалі кіраўнікі партыі і ўрада. Старшынёй АКФАН выбраны Мар'ян Спыхальскі; прынята пастановы аб святкаванні 50-годдзя адраджэння польскай незалежнай дзяржавы і ўрачыстага адзначэння 500-годдзя нараджэння Мікалая Каперніка.

М. Спыхальскі выступіў з дакладам — «Развіццё сацыялістычнай Польшчы мэтай усіх патрыятычных сіл Фронту адзінства народа». Старшыня м. ін. сказаў:

«Так важную задачу, як фармаванне грамадскіх і палітычных поглядаў маладога пакалення інтэлігенцыі, можна даверыць толькі выхаваўцам, дарэшты звязаным з сіламі прагрэсу і сацыялізма сваёй палітычнай і ідэалагічнай паставай, а таксама сваім становішчам ў навуцы» (...)

«У адпаведнасці са слушнымі грамадскімі пастулатамі ўжо прыняты меры, якія дазволяць значна павялічыць прыплыў моладзі з рабочых і сялянскіх асяроддзяў у вышэйшыя навучальныя ўстановы» (...)

«Жадаем, каб моладзь наша зразумела, што супольна з усёй грамадскасцю нясе адказнасць за лёсы радзімы, што нельга ёй нічога ўпусціць з таго, што ўжо здабыта намаганнямі і крывёю бацькоў і мацярок, створанае працай папярэдніх пакаленняў, што абавязкам моладзі з'ўляецца ўмацоўванне і развіванне здабыч сацыялізма».

Падчас сесіі АКФАН выступіў з прамовай сакратар ЦК ПАРП Вітальд Ярасінскі, які, між іншым, сказаў:

«Гарантам сацыялізма ў Польшчы і саюза з Савецкім Саюзам з'яўляецца ў першую чаргу наша партыя. Кожны, хто пачынае барацьбу супроць нашай партыі і сацыялістычнай сістэмы — аб'ектыўна, ці разумее гэта, ці не — падрывае фундаменты нацыянальнага быту Польшчы. Тыя, што сёння заклікаюць да барацьбы супроць нашай партыі, з'яўляюцца не толькі ворагамі Народнай Польшчы. З'яўляюцца яны ворагамі Польшчы наогул, калі б змаглі дасягнуць сваіх мэт, сталіся б магільшчыкамі незалежнага народа, падрыхтавалі б яму той самы лёс, які магнацтва ў 1794 годзе і як буржуазія ў 1939 годзе».

В. Ярасінскі звярнуў увагу на тое, што неадлучным элементам ідэйна-выхаваўчай дзейнасці ў напрамку развіцця сацыялістычнай дэмакратыі з'яўляецца рашучая барацьба супроць усялякіх спроб выкарыстання дэмакратыі да варожай сацыялізму дзейнасці, супярэчнай з найболей жыццёвымі інтарэсамі народа.

Прамовы мелі таксама: сакратар Галоўнага Камітэта ЗСЛь, Людамір Стасяк, і намеснік Старшыні Камітэта Цэнтральнага СД, Яўгенія Красоўская.

(ся)

## ВАЯВОДСТВА

### СВЯТА ВОЙСКА І ГАРЦЭРАЎ

Павятовай гарцэрскай арганізацыі Беластоцкага павета прысвоена імя «Салдатаў Беластоцкай ваеннай часці войска аховы пагранічча». Урачыстасці з гэтай нагоды адбыліся ў Беластоку. Адначасова Беластоцкія пагранічнікі адзначалі 23-цюю гадавіну існавання Войска аховы пагранічча. Ва ўрачыстасцях гэтых прынялі ўдзел прадстаўнікі гродзенскіх пагранічнікаў: палкоўнік Аляксандр Махалёў і падпалкоўнік Пётр Вадаляжэўскі.

### ЧЫН МАЛАДЫХ

Даз'ездаўскі чын членаў Саюза сацыялістычнай моладзі Беластоцкага ваяводства ацэньваюць на 8 мільёнаў злотых. Вынікі патрыятычнага подзвігу моладзі былі падведзены на сустрэчы актывістаў ЗМС з экзекутывай Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку. Сустрэча адбылася 10 чэрвеня. Прынялі ў ёй удзел І сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку тав. А. Лашэвіч і старшыня галоўнага праўлення ЗМС А. Жабінскі. Адначасова для дваццаці найбольш актыўных членаў ЗМС былі ўручаны партыйныя кандыдацкія білеты.

### БУДАЎНІЦТВА

У Беластоку адбылося пасяджэнне калегіі міністэрства будаўніцтва. Супольна з партыйным і адміністрацыйным кіраўніцтвам Беластоцкага ваяводства прадстаўнікі міністэрства абмеркавалі праблемы ажыццяўлення будаўляных капіталаўкладанняў на Беласточчыне.

### У СЕЛЬГАСГУРТКАХ

Пасля выбараў у праўленні вясковых сельскагаспадарчых гурткоў зараз праходзяць павятовыя з'езды прадстаўнікоў гэтай сялянскай арганізацыі. З'езды ўжо адбыліся: у Гайнаўцы, Дуброве, Сямяцічах, Беластоку, Ломжы, Кольне, Аўгустове, Сувалках, Лапах, Замброве і Галдапі. Іх удзельнікі праводзяць ацэнку найбольш істотных сельскагаспадарчых праблем і вызначаюць актуальныя напрамкі дзейнасці для вясковых сельскагаспадарчых гурткоў.

### СУСЕДСКІ ВІЗІТ

У рамках супрацоўніцтва Беластоцкага ваяводства з прыгранічнай Гродзенскай вобласцю БССР пабываў на Беласточчыне І сакратар Абкома Камуністычнай партыі Беларусі ў Гродне, тав. Іван Фёдаравіч Мікуловіч. Наведаў ён Гайнаўскі, Ломжынскі, Манецкі і Кольненскі паветы, а таксама ў Беластоку сустрэўся з кіруючым актывам Беластоцкага ваяводства. Візіт праходзіў у атмасферы шчырай дружбы і братэрскага супрацоўніцтва.

### ВЕЛАГОНКА

9 чэрвеня на гарадскім спартыўным стадыёне ў Беластоку закончылася 4-охдзённая міжнародная велагонка. Перамагла каманда «Грыфа» са Шчэціна. Найлепшымі велагоншчыкамі Беластоцкага ваяводства аказаліся спартсмены ЛьЗС з Бельска Падляшскага. У агульнай пунктацыі занялі яны 9 месца. У велагонцы прымалі ўдзел, між іншым, спартсмены з савецкай Гродзеншчыны.

(вр)




**NIEDZIELA, 16.VI.**

8.25 Program dnia. 8.30 ,,Litewskie Muzeum Rzeźby'' (,,W świecie sztuki'') (Wilno). 9.00 TV Kurs Rolniczy: ,,Choroby bakteryjne drzew owocowych''. 9.35 ,,Przypominamy, radzimy''. 9.50 ,,Poemat dwóch serc'' — film fab. radz. 11.25 ,,Zawodowa oferta'' (Szkoły pomaturalne). 11.40 Zawody ratowników wodnych. 12.40 Dziennik. 12.50 PKF. 13.00 ,,Podróże filmowe'' — film radz. 13.15 ,,Usta milczą, dusza śpiewa'' — program muzyczny. 13.55 ,,Piętno z St. Gollaro'' — film (,,Przygody trzech muszkieterów''). 14.25 ,,Przemiany''. 14.55 Dla dzieci: J. Wilkowski — ,,Alert serca'' (,,Ula i świat''). 15.20 ,,Piórkiem i węglem''. 15.40 ,,Woda jest groźna'' — rep. specj. 16.05 ,,Spotkanie z pisarzem'' (Bronisław Zieliński). 16.35 ,,Wielka gra''. 17.35 ,,Kamera 68''. 17.45 ,,Teatr TV na świecie'' — ,,Złote wesele'', sztuka TV Czechosłowackiej. 18.45 ,,Mina'' — rep. filmowy (,,Ludzie i zdarzenia''). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Małżeństwo doskonałe'' — program rozrywkowy. 21.05 ,,Szosa nr 7'' — film fab. fr. 22.40 ,,Niedziela Sportowa''.

**PONIEDZIAŁEK, 17.VI.**

15.40 Program dnia. 15.45 i 23.00 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: ,,Kino Ptyś''. 17.20 Dla młodych widzów: ,,Zrób to sam''. 17.35 Sprawozdanie z meczu Polska — Bułgaria w gimnastyce artyst. 17.55 ,,Bo Bo'' — rep. filmowy Tele-Aru z Węgier. 18.10 Reportaż z Zakładów H. Cegielskiego. 18.40 ,,Eureka''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV. R. Penn Warren: ,,Sędzie Irvin''. Na motywach powieści ,,Gubernator''. 21.40 Kino Krótkich Filmów. ok. 22.15 ,,Próby''. 22.40 Dziennik.

**WTOREK, 18.VI.**

9.45 ,,Przygody Wernera Holta'' — film fab. NRD. 12.30 i 15.20 Przysposobienie Rolnicze: ,,Organizacja punktu omłotowego''. 15.55 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: ,,To niedaleko'' (III). 17.20 Dla młodych widzów: ,,Jak dawniej jeżdżono na Bielany?'' (,,Klub pod Smokiem''). 17.50 ,,Nie tylko dla pań''. 18.10 TV Kurier Warszawski. 18.25 ,,Paul Gauguin'' — film dokument. 18.40 ,,Gorąca linia''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Giełda piosenki''. 20.35 ,,Równy start''. 21.05 ,,Przygody Wernera Holta'' — film fab. NRD. 23.45 Dziennik.

**SRODA, 19.VI.**

10.00 ,,Salvatore Guiliano'' — film fab. wł. 12.00 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.40 Politechnika TV I roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci. ,,Rogate bractwo''. 17.30 ,,Dzień Olimpijczyka'' (Berlin) Międzynarodowy Meeting Lekkoatletyczny. 18.30 ,,Poligon''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Axur — Król Ormus'' — opera. Muzyka — A. Salieri. 21.00 ,,Światowid''. 21.30 Międzynarodowy Meeting Lekkoatletyczny. 22.50 Dziennik.

**CZWARTEK, 20.VI.**

9.55 Dla szkół (kl. VI) Język polski: ,,Spotkanie z Edmundem Niziurskim''. 10.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.55 Politechnika TV I roku. 16.55 Sprawozdanie sportowe. W przerwie, ok. 17.45 Dziennik. 18.40 ,,Sylwetki X Muzy'' (Wojciech Siemion). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Z Merkurym na ty'' — program z Międzynarodowych Targów Poznańskich. 20.40 ,,Ściśle tajne premiery'' — film fab. CSRS. 22.10 ,,Muzy na morzu'' (,,Profile kultury''). 22.35 Dziennik.

**PIĄTEK, 21.VI.**

10.00 ,,Ściśle tajne premiery'' — film fab. CSRS. 11.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 23.00 Politechnika TV I roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: ,,Miś z okienka''. 17.15 ,,Człowiek a ziemia''. 17.45 TV Kurier Mazowiecki. 18.00 ,,Romeo i Julia''. ,,Wielkie miłości'' — program muzyczny. 18.45 ,,Dialogi historyczne''. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Czwarta zmiana''. 20.40 Teatr TV. S. Żeromski: ,,Sułkowski''. 22.10 Program publicystyczny. 22.40 Dziennik.

**SOBOTA, 22.VI.**

10.00 ,,Sami na wyspie'' — film fab. jug. 11.25 Przerwa. 15.40 TV Kurs Rolniczy: ,,Pytania i odpowiedzi''. 16.20 ,,Skoki do wody'' (,,Wychowanie fizyczne naszych dzieci''). 16.30 Program tygodnia. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: ,,Włamywacze'' — film pol. 17.25 ,,Spotkania z przyrodą''. 17.50 ,,Artyści areny'' — film (VI). 18.15 ,,Tele-Echo''. 18.55 ,,Gawędy o współczesności''. 19.20 Dobranoc. 19.30 ,,Monitor''. 20.00 Festiwal Piosenki ,,Złoty klucz'' (Karlove Vary). 21.45 Dziennik. 22.00 Wiadomości Sportowe. 22.10 ,,Sami na wyspie'' — film fab. jug.




**Piątek, 14 czerwca**

8.05 Dziennik. 8.15 Dla uczniów. 8.30 ,,Z ojczystych pól'': 9.00 Motocyklowe mistrzostwa świata. 9.50 ,,Kultura fizyczna i sport''. 15.05 ,,Nowości''. 15.15 Program dnia. 15.20 ,,Ekonomika i życie''. 15.50 Pieśni E. Griga''. 17.00 ,,Maturzysta — 68''. 17.30 Piłka nożna: ,,Spartak'' (Moskwa) — ,,Dynamo'' (Kijów). 19.15 ,,Sztafeta nowości''. 20.00 Program z Tbilisi. 21.00 ,,5 + 2''. 21.30 Na dobranoc.

**Sobota, 15 czerwca**

6.55 Program dnia. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dziennik. 8.00 Program rozrywkowy. 8.30 ,,Reportaż sobotni'' (Transmisja z Soczi). 9.00 Film dla uczniów. 9.40 Szkatułka muzyczna. 10.00 Filmy animowane dla dzieci. 10.10 Międzynarodowa wystawa ,,Interbytmasz''. 10.30 ,,Pięć dni, pięć nocy''. Film. 12.10 Teatr TV dla dzieci. 13.05 W eterze ,,Młodość''. 14.30 TV barwna. 16.00 Klub filmowy. 17.00 ,,Śledztwo trwa''. Film. 18.45 ,,Czas''. 19.15 W eterze ,,Młodość''. 20.00 Najbardziej humanitarny zawód''. 20.20 ,,Społeczeństwo a prawo''. 21.05 Dziennik.

**Niedziela, 16 czerwca**

6.55 Program dnia. 7.00 Gimnastyka. 7.15 ,,Budzik''. 7.45 Dziennik. 8.00 Kalendarz TV. 8.30 ,,W świecie sztuki''. 9.00 ,,Pomyślnych wiatrów''. Film. 10.15 ,,Uczyć się, uczyć, uczyć''. Film TV. 10.45 ,,Gwardia pracy''. 11.30 ,,Dla was, kobiety''. 12.00 ,,Wiedza''. 12.30 Dla żołnierzy. 13.00 Kiosk muzyczny. 13.30 Program o sporcie. 13.50 ,,Żonkiś''. Film. 14.30 TV barwna. 16.00 Piłka nożna: ZSRR — Austria. 18.00 W eterze ,,Młodośc''. 19.00 ,,Siedem dni''. 19.45 ,,Romemo, mój sąsiad''. Spektakl Moskiewskiej operetki. 21.50 Tylko fakty.

## Браты-суседзі

# Гэта не толькі куртуазія

(Працяг са стар. 1)

што скарысталі многа мы і сёе-тое пераказалі нашым сябрам. Мы, перш за ўсё, захочам увесці ў нашых прадпрыемствах механізацыю найбольш працахлонных работ, так як гэта зроблена ў гродзенскіх сяброў, а таксама ўвесці прадукцыю вырабаў з апілак. Наша дэлегацыя ўбачыла ў прадпрыемствах велізарную пашану да чалавека, і гэта захочам уводзіць у нас, хаця бачым аб'ектыўныя цяжкасці. Напрыклад, вельмі нам спадабаліся «Дошкі гонару», дзе знаходзяцца здымкі перадавікоў працы, і гэта абавязкова ўвядзем.

Мгр інж. Ю. Кананюк — член дэлегацыі. — Асабліва мне кінулася ў вочы, што ўпраўляе прадпрыемствам не адзін чалавек, але такі «трохвугольнік» г. зн.: дырэктар, сакратар партыйнай арганізацыі і старшыня прафсаюзаў. Для ўсіх іх поўны давер. Шмат можна таксама расказваць аб сацыяльных умовах рабочых...

Ул. Прахарук — член дэлегацыі. — Я звярнуў, між іншым, увагу на факт, што калі (у нашых суседзяў), напрыклад, хочуць будаваць нейкую інвестыцыю, дык перш за ўсё будуюць жылыя дамы, дзетсады і яслі, школы, а потым ужо само прадпрыемства. Гэтыя сацыяльнага характару будоўлі служаць пачаткова будаўнічым, а потым пасяляюцца сюды рабочыя завода.

Р. Каласоўскі. — Па беларускай зямлі мы праехалі больш 1000 кіламетраў, глядзелі на калгасныя палі і нідзе не заўважылі, каб зямля ляжала аблогам, наадварот, зямля цудоўна загаспадарована. Бачылі многа помнікаў рассеяных па Беларусі, напамінаючых дні і гады змагання з фашысцкім захопнікам. Савецкія людзі неахвотна гавораць аб вайне, хаця гэта яны ў асноўным прычыніліся да перамогі над фашызмам. Захапляе іх шырачэзны размах мірнага будаўніцтва, але гэта не абазначае, што калі зойдзе патрэба, стануць яны як адзін у абарону міру і сацыялізма.

Хочацца яшчэ і яшчэ раз падзякаваць за сардэчнасць, цеплыню, за мілыя сустрэчы (ў тым ліку з міністрам лясной і папяровай прамысловасці ў Мінску), за вялікую дружбу між нашымі народамі.



На здымку: Сябры з Гродна і Мастоў у Гайнаўцы.

Запісаў А. К.
Фота А. Карпюк

У чацвёртым сёлеташнім нумары «Маладосці», штомесячным літаратурна-мастацкім і грамадска-палітычным і ілюстраваным часопісе, органе Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР надрукавана рэцэнзія на паэтычны зборнік Віктара Шведа «Жыццёвыя сцежкі», якую і прапануем увазе нашых чытачоў.

# Жыццёвыя сцежкі

Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Беластоку праводзіць значную культурна-асветную работу сярод беларусаў Беласточчыны: выдае штотыднёвую газету «Ніва», зборнік мастацкіх твораў, навуковых прац, календары. Нядаўна Таварыства выдала зборнік вершаў Віктара Шведа «Жыццёвыя сцежкі».

Вершы паэта прысвечаны роднай зямлі, роднай мове, маці, — усяму таму, што дарага кожнаму чалавеку. У іх адчуваецца шчырае пачуццё патрыёта, грамадзяніна, сына сваёй Радзімы.

Усю першую частку зборніка можна было б назваць паэтычнай споведдзю сына беларускай вёскі. На кожным кроку ён бачыць прыкметы новага, радасныя змены ў яе жыцці і побыце:

За вёскай, у полі, на ўзгорку,
Дзе ўецца гасцінец — бальшак,
Аб долі задумаўся горкай
Стары, спарахнелы вятрак.

«Найбольш адзінокі на свеце,
Аджыў, як відаць, я свой век.
З мяне насміхаецца вецер,
Пакінуў мяне чалавек...»

Ветракі, як і саламяныя стрэхі, цьмяныя газоўкі, адыходзяць безваротна ў мінулае. І паэт у вершы «Вятрак» спыняе свой позірк на старым, развітваючыся з ім назаўсёды. У словах развітання адчуваецца лёгкі сум, бо да ўсяго з дзяцінства прывыкае, прырастае душою чалавек. Але змены ў лёсе народа перш за ўсё і больш за ўсё радуюць паэта. З гонарам гаворыць ён пра сённяшні дзень беларускага народа ў вершы «Памяці Максіма Багдановіча»:

Твой родны край не выкляты ўжо богам,
І весела спявае твой народ.

Выкарыстанне і паэтычнае пераасэнсаванне матываў самога Максіма Багдановіча надае твору Віктара Шведа мастацкую выразнасць і пераканаўчасць, асабліва, калі ён піша, што песні таленавітага паэта «нам раскрываюць дум сакрэт і мар».

У іх жыве наш край збяднелы, ціхі,
Перад вачыма васількі цвітуць.
Уваскрасаюць слуцкія ткачыхі,
Што паясы на ўзор персідскі ткуць.

Жыве ў вершах Віктара Шведа памяць пра жахлівыя гады вайны, пра жыхароў вёскі Райск, закатаваных гітлераўцамі ў 1942 годзе; піша паэт і пра нашу сучаснасць, пра пашырэнне і неўміручасць ленінскіх ідэй.

Хочацца пажадаць паэту, а разам з тым і ўсім нашым братам, што жывуць на зямлі дружалюбнай сацыялістычнай Польшчы, вялікага плёну ў працы, поспехаў у будаўніцтве новага жыцця.

УЛАДЗІМІР КАЗБЯРУК

## Кніжкі для Дома культуры імя К. Каліноўскага

Аляксей Казёл з Беластока 16 красавіка г. г. падарыў грамадскай бібліятэцы ў Гарадку, якая змяшчаецца ў Доме культуры імя Кастуся Каліноўскага, 18 кніжак, у тым ліку: на польскай мове — 10, на рускай — 3 і на беларускай — 5.

Ужо за тыдзень!

# Успаміны партызанскага камандзіра

У наступным нумары пачнем друкаваць успаміны былога камандзіра партызанскай брыгады «У імя Радзімы», Беластоцкага партызанскага злучэння, М. Янкоўскага (Мартынава). Гэтыя ўспаміны, якія будуць ісці ў «Ніве» праз усё лета, павінны асабліва зацікавіць жыхароў Гайнаўскага і Бельскага паветаў, дзе дзейнічала брыгада «Мартынава». Успаміны будуць друкавацца пад загалоўкам «У Белавежскай пушчы».




■ Юрый Міткоўскі, якому 28 гадоў, з Бельска, вул. Студзяводская 8, працаваў электрыкам манцёрам рамонтна-будаўлянай брыгады Бельскага ПЗГС. Даўжэйшы час краў ён у сваім прадпрыемстве рознае электраабсталяванне, у тым ліку і электрычны рухавік — разам на суму 44 657 зл. Камбінатар узяў таксама ад гаспадароў 19 700 зл. абяцаючы ім выканаць электрычнае абсталяванне. Зазвычай аднак канчалася толькі на абяцанках. Зараз яго арыштавалі.

■ Ян Тапора (23 гады), Хведар Хурса (21 год), Рыгор Гега (22 гады), Уладзімір Пеня (25 гадоў) і Ян Кубік (28 гадоў) — усе з вёскі Тапілаўцы ў Гайнаўскім павеце — пабілі Уладзіміра і Сяргея Жукоўскіх. Міліцыя ўстанавіла, што кіраваліся яны хуліганскімі матывамі. Усіх іх арыштавана.

■ У вёсцы Фэрмы Бельскага павета ў 9 гадзін раніцы 27 мая г. г. згарэў дом Мар'яна Васілеўскага. Разам з домам згарэла ўсё хатняе абсталяванне. Затраты ацэньваюць на 60 тыс. зл. Устаноўлена, што прычынай пажару быў нячышчаны комін і іншыя дымаходныя правады. Таксама ў Бельскім павеце, але ў вёсцы Шэрне, вечарам 25 мая згарэла клуня Сяргея Коса, а разам з клуняй — сена, салома, зерне і дробныя гаспадарчыя прылады. Разам пайшло з дымам рознага дабра на 50 тыс. злотых.

■ У Саколцы на скрыжаванні вуліц Гродзенскай і Каспшака шафёр грузавіка Язэп Трызан наехаў на матацыкліста Т. Мелішэўскага (29 год) з вёскі Геніюшы ў Сакольскім павеце. У выніку сутыкнення з самаходам матацыкліст зламаў нагу. Вінаваты ў тым шафёр грузавіка, які не перасцерагаў першынства праезду.

■ Жыхар вёскі Масева ў Гайнаўскім павеце, 29-цігадовы Сяргей Анішчук ехаў па-п'янаму матацыклам ВСК. За вёскай Масева вывернуўся ён з матацыклам і ў выніку гэтага атрымаў даволі цяжкія параненні.

■ 5-цігадовае дзіця, Валік Карпінскі з вёскі Вайтковіцы Гліннэ ў Сямяціцкім павеце ўтапіўся ў рацэ Буг. Як гэта здарылася, на жаль, ніхто не ведае. Вядома толькі, што аставаўся ён дома без апекі.

■ Гайнаўская міліцыя ў час вобыску ў памяшканні Веры Якімюк і Станіслава Кавальскага (абое з Гайнаўкі) знайшла абсталяванне да вырабу самагонкі.

Вуэр

# „Праграма-мінімум"

Так умоўна можна назваць план, які накрэсліла сабе кіраўніцтва пачатковай школы ў Трасцянцы Гайнаўскага павета. Умоўнасць адносна «мінімум» вынікае з таго, што трэба было выбраць: або кепска рэалізаваць усе заданні накрэсленыя школьнай рэформай, або ўпарадкаваць гаспадарчыя справы, каб гэтым даць падставу да магчыма найшырэйшай рэалізацыі заданняў рэформы.

Вырашана астаткова заняцца ўпарадкаваннем школьнага пляца, які быў загаспадараваны на спартыўныя пляцоўкі ўжо ў 1958 г., але не мог быць выкарыстаны таму, што не было агароджы. Пастаўлена перш за ўсё на гігіену школы і вучняў. Дзеля гэтага трэба было стварыць умовы. Гаспадарчым спосабам аддзелена памяшканне на раздзявальню, якой інвестар, будуючы школу, не дакончыў і дзе быў толькі цэнтр пылу. У кожным класным памяшканні грамадскім чынам створана «куточак чысціні».

У гэтым годзе плануецца закончыць пабудову брукаванай дарогі ад школы да вуліцы і агароджу школьнага пляца. Каб гэта зрабіць, апрацавана дакументацыю, згодна з якой загаспадароўваецца школьны пляц. Праца распачалася ад чыну, які паднялі бацькі яшчэ восенню мінулага года, а звязанага перш за ўсё з пабудовай дарогі да вуліцы (ад школы). Не быў гэта «люксус», а проста справа бяспекі дзяцей, таму што дарога ад школы да вуліцы мела пакатнасць 3 м. Пабудова дарогі дасць магчымасць адвядзення вады ад школы, уласцівага загаспадаравання пляца перад школаю, а што за гэтым ідзе — да павышэння чысціні.



Канчаецца брукаванне дарогі да школы.

Каштарыс загаспадаравання і агароджы пляца выказвае суму 381 735 зл, з чаго на самае загаспадараванне ідзе 206 842 зл, а на агароджу — 170 706 зл. Загаспадараванне поўнасцю выконваецца чынам. Вывезена больш 1 500 $м^3$ зямлі, канчаецца брукаванне (брукароў аплочвае бацькоўскі камітэт).

Асноўнае насіленне чыну было ў гэтым годзе ў гонар 1 Мая і V з'езда ПАРП. Трэба сказаць, што бацькі праявілі ў чынах вялікую ахвярнасць. Асабліва заангажаваліся ў грамадскую працу ваенныя інваліды: Іван Грыгарук і Міхась Васілюк. Апрача таго актыўнасцю выказаліся: Мікалай Трафімюк І, Рышард Дубоўскі з Анцут, Іван Міхальчук, Сцяпан Апалінскі, Мікалай Трафімюк II, Іван Максімчук і іншыя. Варта падкрэсліць, што ў чыне прыймалі ўдзел Мікалай Сідарук і Міхал Радзіванюк, якіх дзеці яшчэ не ходзяць у школу. Агулам працавала 120 бацькоў.

Ёсць толькі адна просьба да Прэзідыум ПРН у Гайнаўцы, каб датрымала слова і згодна з абяцаннем прызнала грошы яшчэ ў гэтым годзе, на «падтрымку чыну» Трасцянцы. Разыходзіц-




На Сакольшчыне ў трох Астравах: у Паўднёвым, Паўночным і Новым правозіцца камасацыя зямлі. Урэшце кончыцца цераспалосіца, урэшце сяляне змогуць падняць на вышэйшы, больш культурны, механізаваны спосаб апрацоўкі зямлі. У гэтых трох вёсках шмат апушчанай зямлі і шмат такіх гаспадароў, якім ужо не пад сілу яе апрацоўваць. Таму некаторыя людзі здаюць зямлю дзяржаве і будуць атрымоўваць пенсіі.

У раёне Крынак у будучыні будзе ПГР. Таму патрэбна тут зямля. І так, пад ПГР у Паўднёвым Востраве адыдзе 104 га, у Паўночным Востраве — 97 га і ў Новым Востраве — 76 га.

«Сцаленне» зямлі выконваюць інжынеры геадэзісты з Беластока — Station Прушынскі і Генрык Качынскі.

У іх многа работы. Гэта ж трэба параіць кожнаму гаспадару, трэба вымерыць яго будучую зямлю і сядзібны ўчастак. А з апісаннем найбольш клопатаў. Кожны хоча, каб сядзіба была як найбольшая. Дадатковымі клопатамі з'яўляюцца паграбы (піўніцы), якія пабудаваны пераважна на межах гэтых сядзіб. Не мала цяжкасцей і з тым, каб усім больш-менш дагадзіць, калі разыходзіцца аб месца яго будучай калёніі. Канцылярыю інжынераў у Паўднёвым Востраве наведваюць часта сяляне і даказваюць свае патрэбы, рацыі. Кіраўнік работ Станіслаў Прушынскі спакойна выясняе ўсе справы адносна калёній. Здараецца так, што некаторым асобам многа раз трэба тлумачыць адно і тое самае. Усе здаволены ў вёсках тым, што ў інжынера Прушынскага хапае цярплівасці і што ён беспасрэдны і добры. У яго належна ўкладваецца супрацоўніцтва з насельніцтвам, прэзідыумам ГРН у Гуранах і з «радамі ўдзельнікаў абмену зямлі». Да такой рады належыць па тры асобы з кожнай вёскі.

І так, напрыклад, у Паўднёвым Востраве членамі гэтай рады з'яўляюцца: Уладзімір Бондар, Васіль Хомчык і Браніслаў Сталярэвіч. Рада гэтая дае рэкамендацыі, проста служыць радай для інжынераў.

Ужо на восень жыхары трох Астравоў атрымаюць новыя надзелы зямлі. Зямля будзе пераважна толькі ў 2-х кусках, і гэта значна дапаможа падняць на вышэйшы ўзровень сельскагаспадарчую прадукцыю.

М. ХМЯЛЕЎСКІ
Фота аўтара



У час працы інжынеры С. Прушынскі, Г. Качынскі і практыкант В. Кужалеўскі.

# РАЗМОВЫ З СОЛТЫСАМ

У Плюцічах жывуць людзі розных веравызнанняў: праваслаўныя, каталікі, даследчыкі Св. пісання, сведкі Еговы і бабцісты. Да таго каля 20 працэнтаў жыхараў вёскі — гэта людзі ні ў што не веруючыя. У суме 6 розных светапоглядаў!

— У нас у адной хаце, — тлумачыць солтыс, Ян Іванюк, — па тры веравызнанні.

— Ці не сварацца?

— Не. А чаго? У нас народ памяркоўны, кожны жыве, як хоча. Што каму да каго?

Памяркоўнасць гэтая аднак адносна свежай даты. Да вайны па-рознаму бывала. У Плюцічах аднак вялікай сілай у той час з'ўлялася КПЗБ. У камуністычным падполлі людзі вучыліся цярпімасці ды безрэлігійнага светапогляду. Вялікая колькасць людзей безрэлігійных у вёсцы не дазваляе на ўзнікканне веравызнаўчых канфліктаў нават у скромных суседскіх маштабах.

Перад вайною ў Плюцічах, як мы ўжо сказалі, вялікую сілу мела КПЗБ. Пасля вайны дзейнічала актыўна ППР. Налічвала яна ў свой час каля 50 членаў. Зараз партыйная арганізацыя налічвае тут усяго 13 членаў. Што сталася з рэштаю? Былі актыўнымі не толькі ў сэнсе палітычным, але праяўлялі звычайную, жыццёвую актыўнасць, ды раз'ехаліся па ўсім свеце. Лагічна беручы, павінна іх заступіць маладое пакаленне. Маладое пакаленне не праяўляе аднак той палітычнай ды грамадскай актыўнасці, якую праявілі яго бацькі.

— Нічым не цікавяцца, дый годзе, — тлумачыць солтыс.

А падумаўшы дадае:

— А калі цікавяцца, дык толькі бутэлькаю. Загляньце ў святліцу — адны бутэлькі валяюцца пад лаўкамі.

Святліца ў Плюцічах месціцца ў тым самым будынку, што і крама. У краме, вядома, віно. Моладзь вечарам купляе віно, аглядае тэлевізар, ды віном запівае. Не толькі зрэшты моладзь.

Дарэчы сказаць некалькі слоў аб святліцы. Гэта проста абшырная сялянская хата, купленая і пабудаваная вёскаю даўным-даўно, бо яшчэ ў 1948 годзе. У святліцы вялізны тэлевізар, ды доўгія, няўклюдныя лавы. Раз у тыдзень прыязджае ў святліцу кінафільм з Райска. І гэта ўсё. Святліцу замыкае і адмыкае пажылы ўжо селянін — Супрунюк Сцяпан. Робіць гэта зусім бясплатна. Супрунюк жыве наогул бедна. У свой час вёска прадала гравій прадпрыемству ў Страблі, ды за грошы гэтыя ўвяла Супрунюку электрычную інсталяцыю. Супрунюк быў за гэта надзвычай удзячны, ды ў падзяку вёсцы пільнуе мясцовую святліцу.

— Чаму аднак моладзь не цікавіцца шырэйшым, грамадскім жыццём вёскі? — упарта пытаю солтыса.

Солтыс тлумачыць: — Плюцічы распаложаны непадалёк чыгункі, даезд да Бельска і да Беластока вельмі лёгкі, уся моладзь працуе ў гэтых гарадах. Таму няма зацікаўлення грамадскімі праблемамі вёскі. Моладзь цікавіцца выключна тым, дзе і як можна зарабіць грошай.

Можа яно і так. Але ж у Плюцічах дзейнічаюць маладзёжныя арганізацыі, а асабліва ЗМВ — павінны яны даступнымі ім сродкамі ўключыць моладзь у шырэйшае грамадскае жыццё. Як дагэтуль — гэта толькі жаданні. А шкада.

— Яшчэ адзін ёсць вялікі недахоп у Плюцічах, — канчае нашую размову солтыс. — Няма ў нас малачарні. А малака тут многа, у некаторых гаспадароў па 8—9 кароў. Атрымліваецца мора малака. Бабы нашыя квасяць яго, ды смятану і сыры цягнуць у Беласток на рынак. Іншы раз у цягнік не ўлезеш, толькі жанчын з банькамі ды торбамі. Адна страта часу, дый годзе!

Прызнаем у гэтым выпадку плюціцкаму солтысу поўную рацыю.

*Уладзімір Паўлючук*

ца пра тое, каб у гэтым годзе закончыць усе гаспадарчыя працы, каб у наступным школьным годзе можна было аддаць усе сілы на навучанне і выхаванне згодна з вымогамі рэфармаванай школы. Трасцяне маюць поўнае права атрымаць дапамогу з павета тым больш, што свой чын амаль поўнасцю выканалі.

А. КАРПЮК
фота аўтара



У школьнай раздзявальні.

# Яшчэ аб пенсіях для сялян

У № 17 «Нівы» мы падалі, што сяляне, якія перадаюць дзяржаве гаспадарку звыш 5 га, атрымоўваюць пенсіі ад 800—1200 зл у залежнасці ад абшару перададзенай гаспадаркі. У № 11 збору законаў апублікавана распараджэнне Міністра сельскай гаспадаркі ад 26 сакавіка 1968 года, якое вырашае многія праблемы звязаныя з прызнаннем пенсіі.

Распараджэнне падае перш за ўсё спосаб пералічання гектараў зямлі адпаведна да яе катэгорыі. І так, адзін гектар зямлі І класа лічыцца за 1,8 гектараў, ІІ класа адпаведна 1,6, ІІІ — 1,2 і IV — 1, V — 0,8 і V — 0,5.

З гэтага вынікае, што хто мае землі VI класа, можа аддаць гаспадарку толькі тады, калі яна мае не менш 10 гектараў, прычым за 10 гектараў атрымае пенсію 800 зл у месяц. Затое той, хто мае тры гектары зямлі І класа, можа яе аддаць дзяржаве і таксама атрымае 800 зл у месяц, а за 5 гектараў гэткай зямлі атрымае 1100 зл пенсіі.

Участак, які пакідаецца гаспадару ў бясплатнае карыстанне мае 0,5 гектара, калі перададзена дзяржаве да 7 гектараў, 0,75 — пры абшары гаспадаркі ад 7—9 гектараў і 1 гектар, калі пераказваецца гаспадаркі звыш 9 гектараў. Гэта адносіцца да сялян ва ўзросце пенсіянера, або якія з'яўляецца інвалідам І або ІІ групы. Калі селянін гэтых патрабаванняў не спаўняе, то калі ён скончыў 40 год — атрымоўвае 0,15 га пры гаспадарцы да 7 гектараў і 0,25 гектара, калі гаспадарка мае звыш 7 гектараў.

Зразумела, мова тут пра гектары «пералічаныя» паводле пададзенага вышэй спосабу.

## Папраўкі адміністрацыйнага падзела

Прэзідыум ПРН у Бельску Падляшскім на сваім пасяджэнні 10 красавіка г. г. прыняў, між іншым, пастанову аб ліквідацыі ГРН у: Аўгустове, Кальніцы, Галадах, Паплавах і Нурцы, а таксама аб змене адміністрацыйных граніц ГРН: Боцькі, Храбалы, Дубін Касцельны, Орля, Пасынкі, Снежкі і Тапчэва. Прэзідыум ПРН пастанавіў паклікаць новыя адміністрацыйныя адзінкі ГРН: у Бельску Падляшскім і ў Бранску.

Вышэй прынятая пастанова патрабуе зацвярджэння вышэйшымі дзяржаўнымі органамі, і толькі тады можа ўвайсці ў стадыю рэалізацыі. (ак)




ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VI КЛ.

СЯБРЫ Ў ПАХОДЗЕ

Як выходзіла з двара
У дарогу дзетвара —
Брала яна рэчы,
Клала іх за плечы:

Грышка ўзяў палатку,
Цішка — коўдраў скатку,
Стась — тапор з рыдлёўкай,
Харч і посуд — Лёўка,
А сачкі з бляшанкай —
Акцябронак Янка.

Толькі выйшлі за сяло,
Цішку муліць пачало.
Стаў прасіць ён Грышку:
— Памажы, брат, крышку!

Цягне Грышка скатку,
Скатку і палатку,
Стась — тапор з рыдлёўкай,
Харч і посуд — Лёўка,
А сачкі з бляшанкай —
Акцябронак Янка.

І гадзіну не ішлі —
Стася колікі ўзялі.
Стаў прасіць ён Грышку:
— Памажы, брат, крышку!

Цягне Грышка скатку,
Скатку і палатку,
І тапор з рыдлёўкай,
Харч і посуд — Лёўка,
А сачкі з бляшанкай —
Акцябронак Янка.

Як мінулі вёрстаў пяць,
Стала сонца прыпякаць.
Просіць Лёўка Грышку:
— Памажы, брат, крышку!

Цягне Грышка скатку,
Скатку і палатку,
І тапор з рыдлёўкай,
І ўвесь клунак Лёўкаў,
А сачкі з бляшанкай —
Акцябронак Янка.

За гарой, дзе бор драмаў,
Раптам Янка закульгаў.
Стаў прасіць ён Грышку:
— Паднясі, брат, крышку!

Цягне Грышка скатку,
Скатку і палатку,
І тапор з рыдлёўкай,
І ўвесь клунак Лёўкаў,
І сачкі, й бляшанку,
І... самога Янку!

НІЛ ГІЛЕВІЧ

1. Раскажыце, як паводзілі сябе сябры ў дарозе?
2. На аснове ўласных назіранняў назавіце рысы характару, якія павінны мець сапраўдныя сябры.
3. Навучыцеся прыгожа чытаць верш.

Узяўся за гуж — не кажы, што не дуж.

# СУСТРЭЧЫ З ПАЭТАМ

У канцы мая гэтага года вёскі грамады Юшкаў Груд наведаў беларускі паэт Віктар Швед. Першую сустрэчу адбыў ён са школьнай моладдзю ў Юшкавым Грудзе. Паэт расказаў сваю аўтабіяграфію і прачытаў школьнікам некалькі сваіх твораў. Моладзь ахвотна купляла яго зборнік вершаў пад загалоўкам «Жыццёвыя сцежкі». Не малой атракцыяй было і тое, што на кожным купленым зборніку паэт складаў свой аўтограф.

Падобныя сустрэчы адбыліся ў Круглым Ляску і ў Рыбаках. У Рыбаках адбыліся дзве сустрэчы, адна з моладдзю, другая са старэйшымі сялянамі.

Усюды паэта сустракалі вельмі цёпла. Яго абдароўвалі кветкамі, спявалі песні і запрашалі часцей наведваць.

*А. Баршчэўскі*
інструктар БГКТ у Міхалове

# БУТЭЛЬКА З ЗАКРУТКАЙ

З гэтымі жанчынамі, то сапраўды, хто знае, як абыходзіцца, бо ці так, ці інакш, ніколі ім не дагодзіш. Федзік даязджае да работы ў Беласток ужо мо 5 год. Усё было добра, пакуль не пачаў разам з ім Сцёпка працаваці. Вядома, хлопцы працуюць на будоўлі і не дрэнна зарабляюць. Федзікава жонка аднойчы хвалілася, што за адзін раз пасля работы зарабіў мужык амаль 100 зл. Федзік, як Федзік, хлопец спакойны і зараз пасля работы смаліць хутчэй да жонкі і дзяцей.

Сцёпка іншы. Маці яго хвалілася: — Мой Сцёпа ў гэтым месяцы апрача пенсіі прынёс мне бутэлькаў больш чым на 150 зл.

Як учула гэта Федзікава жонка, то аж вочы крывёй заплылі ад злосці. Толькі Федзік увайшоў у хату, як жонка гадзюкаю накінулася на яго.

— Каб цябе халера, ты недарэкаватае парасся, слімаку, сляпаку. Каб была пайшла замуж, як да мяне Пясчаніцкія хлопцы сваталіся, то паняю была б, а за табою, то чуць канцы звяжаш. Сцёпкава маці за бутэлькі ўтаргавала вялікую суму, а ў нас нават на сок з ягадаў і вішань няма пасуды. Падлічы, колькі гэта грошай за 5 год ты страціў. За такім мужыком не разжывешся! Ён цешыць, што ўсе грошы жонцы аддае, а даходы з боку гэта ты думаеш не патрэбны?

Паверце, я ніколі не спадзявалася, каб вясковая жанчына так умела гаварыць. Федзік так гэтым перанаўся, што аж сківіцы пачалі дрыжаць, але вядома, хацеў дагадзіць сваёй Зосьцы і пачаў Сцяпанавымі слядамі хадзіць і збіраць бутэлькі. Нават нядрэнныя былі рэзультаты. Ужо за першы тыдзень Федзік 9 бутэлек прывалок. На другі тыдзень пачаў яшчэ больш прыносіць, ды і якія бутэлькі, каб вы зналі.

Зоська Федзікава аж падрасла і ледзь п'ятамі да зямлі дакраналася, такая задаволена была. Нават у крэдэнсе быстаўку зрабіла. На самай верхняй паліцы сталі бутэлькі ад «віняку», такія квадратныя, а на ніжэйшых былі ўсялякага калібру. Я і сама думала, што тут анёлы жыццём пачалі кіраваць, пакуль Федзік не дачакаў выплаты, якую ім давалі 10-га. Гэтым разам ён прынёс сваёй Зосьцы 4 бутэлькі і то з закруткамі. Такія прыгожыя, што Зоська яго разоў чатыры пацалавала. Гаварыла, што зараз у гэтых бутэльках зробіць падліўку. Але як Федзік дастаў з кішэні ўсяго 230 зл., замест, як калісь, 1800 зл., Зоська хапіла бутэльку з закруткай і Федзіка па лобі трэснула, і то якраз у тое месца, дзе надаўна цалавала.

Федзік толькі паваліўся на канапу і сказаў:

— «Хацела бутэлькаў, на табе бутэлькі, а нават з закруткай».

СУСЕДКА МІХАЛІНА

# НІЎКА

### БІЗНЕС

Містэр Браун паглядзеў на маладога чалавека і запытаў.

— Вы ажаніліся з маёй дачкой?

— Так, сэр.

— А ці зможаце вы даць ёй развод на такіх умовах, да якіх яна прывыкла? Падумалі вы аб гэтым?

### ПЛАНЫ

— Пані Латка, я чула, што твой муж кінуў піць. Ці не ўступіць яму ў наш клуб былых алкаголікаў?

— Дзякуй, але ў яго зусім іншыя планы. Ён вырашыў пачакаць пару дзён і запісацца ў клуб былых цвярозых.

### ПАЛЯЎНІЧЫЯ

Два паляўнічыя вырашылі забіць вялікага льва.

— Ідзі, агледзь, куды ён схаваўся, — прапанаваў першы.

— А ты?

— А я пайду ў другім напрамку, пагляджу, адкуль ён прыйшоў!

### ХІБА ГЭТА ТАК?

— Прафесар, я даведаўся, што ваша жонка нарадзіла адразу хлопчыка і дзяўчынку. Хіба гэта так?

Прафесар (разгублены): А мне здаецца, што... дзяўчынку і хлопчыка. А мо наадварот...

### ДУМКІ Ясеві АПАЛОНІКА

Людзі, якія не пасляваюць, астаюцца ззаду.

*

Жыццё — момант, які трэба схапіць.

*

Чалавек памяркоўны заўсёды бывае крыху далей ад глупства.

*

Часам пакрыўджаны чалавек сілаю выбуху бывае выкінуты з фатальнай сітуацыі.

*

Да людскіх патрэб нікому нельга адварочвацца плячыма.



— І тут у цябе сябры...

### МУЖЫКІ ПРЫ ГАРМАЦЕ

Убачылі мужыкі ў горадзе гармату — глядзяць і дзівяцца. «Во, — кажа адзін, — каб яе добра набіць, то пэўна на ўвесь горад раўнула б». Аж праходзіць тут нейкі паніч, ды пачуў, што яны казалі. «Эх, — кажа, — што гэта за гармата! Вот у Маскве я бачыў гармату, вот гармата, дык гармата: у рулю дык з возам сена ўехаць можна». Адзін мужык падумаў і кажа:

— Што за дзіва! Нашто ў нас у вёсцы было здарэнне, што пэўна паніч і не чуў, не толькі не ведаў.

— А што ж такое?

— А, — кажа, — меўся да нас нейкі начальнік прыехаць. Ну, дык яго спаткаць найлепей? Вот адзін адстаўны салдат і раіць: «Ёсць у нас гармата старая, ад шведа ці ад француза асталася, дык яе, кажа, вычысцім, а як будзе ехаць начальнік, дык і выстралім на павітанне». А была яна заржавеўшы.

Вот салдат узяў сала, вычысціў добра ў сярэдзіне, памазаў і чакае, набіўшы яе, як выстраліць.

Тым часам, пакуль начальнік прыедзе, разышлíся дамоў. А міма бег сабака, пачуў сала, стаў лізаць і ўлез у сярэдзіну. Тут крыкнулі, што едзе начальнік. Салдат падбег і стрэліў. Як стрэліць яна, як выкіне сабаку, як забрэша сабака, дык якраз, як во гэты паніч цяпер.

### КАЛІ Ж ПРАЦАВАЦЬ

— Падсудны, як гэта вы асмеліліся залезці ў чужую кватэру сярод ночы? — запытаўся суддзя.

— Калі мяне судзілі ў апошні раз, то дапытвалі: «Падсудны, як гэта вы асмеліліся прабрацца ў чужую кватэру сярод белага дня?» Тады скажыце, калі ж мне працаваць?!

# Мір пераможа вайну

Простыя людзі ўсіх нацый!
К дружбе шляхі нас вядуць,
Час надышоў нам з'яднацца,
Сілы свае разгарнуць.

Прыпеў:

Вернымі будзем,
Простыя людзі —
Праўды вялікай сыны, —
Дружнай сям'ёю,
Моцнай сцяною
Станем супроць вайны!

Мірным хай неба заўсёды
Будзе над цэлай зямлёй,
Хай паміж розных народаў
Знікне навек неспакой.

Прыпеў.

Свет ад пакут адгародзім,
Хай над зямлёю штодзень
Яснае сонца ўзыходзіць
Шчасцем для простых людзей.

Прыпеў.

Чорныя здрадныя сілы
Міру не зрушаць сцяну, —
Праўда навек нас зрадніла,
Мір пераможа вайну!

Прыпеў.




# Курёзы

### 51 ГАДЗІНА АРГАННАЙ МУЗЫКІ

Альберт Мюльдэр, галандзец, 52 гады, іграў на аргане 51 гадзіну без перапынку. Яго суайчыннік Ван Палмен іграў на аргане 50 гадзін. Як кажуць, у тых, хто прагне славы, у запасе вечнасць.

### ПАДЗЕМНАЯ МЕЛАДРАМА

Мадам Вільям Уайт з Тэхаса, муж якой перыядычна «спрабуе сябе» ў ролі пахаванага жывым, запатрабавала ад улад штата разводу. Біл Уайт, які заняты зараз барацьбой са сваім праціўнікам — маладым ірландцам, з 23 лютага ляжыць у магіле. Ён дабіваецца паляпшэння свайго рэкорду, які раўняецца 55 дням. Магіла ў Уайта выдатна абсталявана. Яна мае аддушыны, якія дазваляюць дыхаць, харчавацца і весці перагаворы са «знешнім светам». Праз гэтыя аддушыны Уайт і даведаўся, што разведзены са сваёй жонкай і мусіць плаціць ёй цяпер 300 долараў аліментаў штомесяц. Рэкардсмен, аднак, не перапыніў свайго магільнага «марафону».

### ЗАВЯШЧАННЕ

Дзігбі Мікаэль, — багатая англічанка, якая нядаўна памерла, завяшчала 60 тысяч фунтаў стэрлінгаў на дапамогу кошкам у мястэчку Слоўфс. Цікава, што ўласнаму сыну мадам Мікаэль завяшчала толькі 3 тысячы фунтаў стэрлінгаў.

### БРЫЛЬЯНТАВЫ РОТ

Усмешка амерыканскага мільянера з Нью-Мексіка Тэлы Льюіса каштуе цяпер 10 000 долараў: усе свае зубы ён пакрыў плацінай. Восем зубоў амерыканскі багацей інкруставаў яшчэ брыльянтамі.




Калі баліць галава, суцешцеся, што не баляць яшчэ і зубы.